# Голас Радзімы

№ 48 (2138)
30 лістапада 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Вядомаму беларускаму пісьменніку Максіму Лужаніну споўнілася 80 гадоў. Творчасць яго багатая і шматгранная. Выпушчаны дзесяткі зборнікаў вершаў, ёсць добрая проза, кніжкі для дзяцей, выдатныя пераклады з рускай мовы. Спадзяемся на новыя сустрэчы з творамі пісьменніка. Артыкул «Лужанін расказвае пра сябе» змешчаны на 6-й стар.

Фота У. КРУКА.

ЗНАЁМІЛІСЯ З ВОПЫТАМ

## ЗНАХОДЖАННЕ Я. ЛІГАЧОВА Ў ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ



Віцебскую вобласць наведаў член Палітбюро, сакратар ЦК КПСС Я. Лігачоў. Тут таксама знаходзілася група сакратароў абкомаў партыі, якія займаюцца аграрнымі пытаннямі, — слухачоў інстытута павышэння кваліфікацыі Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС. На працягу двух дзён яны знаёміліся з вопытам Віцебскай абласной партыйнай арганізацыі па забеспячэнню рашэнняў сакавіцкага (1989 года) Пленума ЦК КПСС. Пасля яны наведалі аб'екты перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі, прадпрыемствы дзяржаўнага гандлю і спажывецкай кааперацыі, перадавыя гаспадаркі вобласці.

З пачатку дванаццатай пяцігодкі аб'ём вытворчасці харчовых тавараў на прадпрыемствах вобласці павялічыўся ў фізічным вылічэнні на 38 працэнтаў, асвоена больш чым 100 відаў новай прадукцыі. Магутнасці плодаагароднінных сховішчаў павялічаны на 35 тысяч тон, да 1990 года іх умяшчальнасць патроіцца. Толькі сёлета будуецца і рэканструюецца 35 буйных аб'ектаў па перапрацоўцы сельгаспрадукцыі. Дзейнічаюць пяць аграфірм, навукова-вытворчая сістэма па вытворчасці свініны «Прыдзвінская». Курс на самазабеспячэнне прадуктамі харчавання, на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы перапрацоўчай галіны, узяты ў вобласці, ужо сёння дае адчувальныя вынікі.

**НА ЗДЫМКУ: Я. ЛІГАЧОЎ у час наведання калгаса імя Кірава Віцебскага раёна.**

У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ САЮЗА ССР

## НІКОЛІ НЕ ПАЎТОРЫЦЦА

Вярхоўны Савет Саюза ССР прыняў дэкларацыю «Аб прызнанні незаконнымі і злачыннымі рэпрэсіўных актаў супраць народаў, якія падвергліся гвалтоўнаму перасяленню, і забеспячэнні іх правоў».

У ёй адзначаецца, што памяць з асаблівай горыччу вяртае нас у трагічныя гады сталінскіх рэпрэсій. Беззаконнасць і самавольства не мінулі ні адну рэспубліку, ні адзін народ. Дапушчаныя ў мінулым масавыя арышты, лагерные пакутніцтва, абяздоленыя жанчыны, старыя і дзеці ў перасяленчых зонах працягваюць заклікаць да нашага сумлення, зневажаюць маральнае пачуццё. Аб гэтым забыць нельга.

Варварскімі акцыямі сталінскага рэжыму з'явілася высяленне ў гады другой сусветнай вайны з родных мясцін балкарцаў, інгушоў, калмыкаў, карачаеўцаў, крымскіх татар, немцаў, туркаў-месхецінцаў, чэчэнцаў. Палітыка гвалтоўнага перасялення адбілася на лёсе карэйцаў, грэкаў, курдаў і іншых народаў.

Вярхоўны Савет СССР безагаворачна асуджае практыку гвалтоўнага перасялення цэлых народаў як найцяжэйшае злачынства, якое супярэчыць асновам міжнароднага права, гуманістычнай прыродзе сацыялістычнага ладу.

Вярхоўны Савет Саюза ССР гарантуе, што парушэнне правоў чалавека і норм гуманнасці на дзяржаўным узроўні больш ніколі не паўторыцца ў нашай краіне і лічыць неабходным прыняць адпаведныя заканадаўчыя меры для безумоўнага аднаўлення правоў усіх савецкіх народаў, якія падвергліся рэпрэсіям.

КААПЕРАТЫЎНЫ РУХ

## СТВАРАЕЦЦА НОВЫ ПРАФСАЮЗ

Белсаўпрофам і саветам Саюза кааператываў БССР прынята пастанова аб стварэнні прафсаюза работнікаў кааператываў Беларускай ССР.

Адбылося пасяджэнне рэспубліканскага арганізацыйнага камітэта па ўтварэнню новага прафсаюза. Вырашана ў снежні правесці ўстаноўчую рэспубліканскую канферэнцыю прафсаюза работнікаў кааператываў. Вызначана норма прадстаўніцтва — па 15 дэлегатаў ад абласцей і горада Мінска.

ПАСЛУГІ

## ...І ЎКЛЮЧЫЛІ ВІДЭАСУВЯЗЬ

Новы від паслуг — відэасувязь — прапанаваны рэспубліканскай міжгародняй тэлефоннай станцыяй.

І вось, калі беларускім трактаразаводцам спатрэбілася тэрмінова ўдакладніць у калег з Ленінграда асаблівасці аднаго з чарцяжоў, гэта ўдалося зрабіць, калі абодва зацікаўленыя бакі занялі месцы ў салонах відэасувязі. У час сеанса яны і чарцяжы разгледзелі, і інфармацыяй абмяняліся.

Такой паслугай, вядома за плату, карыстаюцца не толькі прадпрыемствы, установы або кааператывы, але і ўсе жадаючыя. У бліжэйшы час будзе арганізавана відэасувязь сталіцы Беларусі з Масквой і Кіевам.

РЭГІЯНАЛЬНАЯ НАРАДА

## КАЛІ ЗІРНУЦЬ З КОСМАСУ...

У Беларусі з мэтай навуковага кантролю экалагічнага становішча будзе шырока апрабіравана методыка аэракасмічнага зандзіравання зямной паверхні.

Такое рэзюме дыскусіі вучоных БССР, УССР і РСФСР — удзельнікаў рэгіянальнай нарады, што адбылася ў Пінску на базе спецыялізаванага будаўнічага аб'яднання «Палессеводбуд».

Размова ідзе аб вывучэнні стану лясных масіваў і пасяўных плошчаў, выяўленні дынамікі тарфяна-балотных працэсаў, вызначэнні эрозіі, вільготнасці і тэмпературнага рэжыму глебы, а таксама аб прагназіраванні эфектыўнасці выкарыстання зямель, якія адводзяцца пад капітальнае будаўніцтва. Вучоныя лічаць, што галоўную ролю ў гэтай рабоце могуць адыграць менавіта авіяцыйныя і касмічныя носьбіты.

На рэгіянальнай нарадзе адзначалася, што ў рэспубліцы ўжо распрацаваны унікальныя прыборы, многія з якіх выпрабаваны на арбітальных комплексах і ў самалётах-лабараторыях.

Метады аэракасмічнага дыягнаставання сельскагаспадарчых угоддзяў Брэстчыны вучоныя пачнуць выпрабоўваць ужо ў першай палове 1990 года. Першачарговыя даследаванні намечаны і на тэрыторыі Салігорска-Старобінскага прамысловага вузла, у іншых рэгіёнах рэспублікі.

ЭКАЛОГІЯ





**Усё большую ўвагу грамадскасці рэспублікі, навукоўцаў і спецыялістаў народнай гаспадаркі прыцягваюць праблемы экалогіі. І сярод галоўных — як паменшыць тую шкоду, што наносіць прыродзе прамысловая дзейнасць чалавека. Шмат задач тут яшчэ чакае свайго вырашэння, але, напрыклад, у вадзе, што прайшла ачышчальныя збудаванні лідскага вытворчага аб'яднання «Лакафарба», ужо можна разводзіць рыбу. Да такога вываду прыйшлі работнікі мясцовай лабараторыі пасля таго, як на прадпрыемстве, акрамя фізіка-хімічнай ачысткі прамысловых сцёкаў, стала прымяняцца і біялагічная. У рэзервуарах развешаны гірлянды з хімічных валокнаў. На іх дзейнічае шмат розных мікраарганізмаў, якія знаходзяць пажыўнае асяроддзе ў адходах, што раней разам з вадой скідваліся ў гарадскую каналізацыю. Цяпер у аб'яднанні ставіцца задача, каб выключыць пападанне прымесяў у падземныя і сцёкавыя воды.**

**Экалагічна бясшкодным для навакольнага асяроддзя хутка стане вытворчасць электраэнергіі і на славутай Лукомскай ДРЭС. Да гэтага часу ў катлах станцыі за суткі спальвалася не менш дзесяці тысяч тон мазуту. Толькі за мінулы год выкіды з гіганцкіх труб склалі каля дзвюх з палавінай тысяч тон цвёрдых часцінак, вялікая колькасць лятучых рэчываў, у тым ліку 134 тысячы тон сярністага ангідрыду, больш за 15 тысяч тон вокіслаў азоту. Менавіта гэта і абумовіла перавод станцыі на прыродны газ, для чаго будуецца газаправод Крупкі — Навалукомль. Ужо к канцу гэтага года першая нітка яго будзе падключана да пятага і шостага энергаблокаў, на якія пачата пераабсталяванне катлоў.**

**НА ЗДЫМКАХ: у лабараторыі службы ачышчальных збудаванняў лідскага вытворчага аб'яднання «Лакафарба»; на сотні кіламетраў цягнецца пакуль яшчэ шлейф дыму з труб Лукомскай ДРЭС.**

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# ПРЫЧЫНЫ ЭМІГРАЦЫІ

Любому чалавеку, які праязджае па шумнай, напоўненай магутным патокам аўтамабіляў вуліцы Чайкоўскага ў Маскве, напэўна, кінецца ў вочы шмат людзей каля будынка з умацаваным на яго фасадзе амерыканскім флагам. Людзі гэтыя розных нацыянальнасцей—армяне і рускія, яўрэі і ўкраінцы; розных прафесій — інжынеры, урачы, вучоныя, рабочыя, настаўнікі. Усіх іх аб'ядноўвае адно: жаданне пакінуць сваю Радзіму і выехаць на пастаяннае жыхарства ў ЗША.

Яшчэ некалькі гадоў назад цяжка было ўявіць, што гэта можа адбывацца ў краіне, якая ўпершыню ў свеце абвясціла сваёй мэтай стварэнне грамадства, заснаванага на прынцыпах сацыяльнай справядлівасці і роўнасці.

Цяпер многія на Захадзе схільныя лічыць выезд з СССР своеасаблівым сведчаннем таго, што савецкая грамадска-палітычная мадэль развіцця прайграла спаборніцтва з заходнімі дэмакратыямі, паказаўшы утапічнасць і неабгрунтаванасць сваіх прынцыпаў з пункту гледжання гістарычнай перспектывы. У апошні час падобныя погляды распаўсюджваюцца і ў нашай краіне. Яны нават могуць здацца пераканаўчымі, калі абмяжавацца толькі павярхоўнымі меркаваннямі аб існуючых падзеях.

Чэргі за ўязнымі візамі каля амерыканскага пасольства нельга разглядаць па-за кантэкстам цяперашняй сітуацыі ў Савецкім Саюзе. Рэзкае пагаршэнне стану эканомікі, пустыя прылаўкі магазінаў, вельмі адчувальны рост дарагоўлі, напружанасць у міжнацыянальных адносінах, што выклікала ў шэрагу раёнаў краіны сутыкненні на этнічнай глебе, значны рост злачыннасці — усе гэтыя факты параджаюць у пэўнай часткі насельніцтва пачуцці разгубленасці, няўпэўненасці ў заўтрашнім дні, прыводзяць людзей да думкі аб тым, што ў бліжэйшыя гады наўрад ці можна спадзявацца на перамены да лепшага.

З другога боку, палітыка публічнасці і дэмакратызацыі адкрыла савецкім людзям вочы на многія працэсы, што адбываюцца ў сучасным свеце. Дзякуючы кантактам з грамадзянамі іншых дзяржаў, аб'ектыўнаму паказу жыцця за мяжой у сродках масавай інфармацыі, мільёны савецкіх людзей даведаліся, што ў прамыслова развітых краінах Захаду, перш за ўсё ў ЗША, дасягнуты высокі ўзровень дабрабыту і грамадскіх свабод, створаны добрыя магчымасці для самарэалізацыі чалавечай асобы. Вось гэтая супярэчлівая сітуацыя, якая спалучае эканамічную і сацыяльную нестабільнасць з расшырэннем адкрытасці савецкага грамадства, ростам інфармаванасці яго грамадзян аб іншых краінах, і штурхае нярэдка людзей да рашэння выехаць з СССР. Да таго ж для падобнага кроку створана і юрыдычная аснова ў выніку перагляду палітыкі ў галіне правоў чалавека, калі ад'езд з Савецкага Саюза перастаў разглядацца як здрада дзяржаўным інтарэсам.

Але ці з'яўляецца выезд грамадзян з нашай краіны на восьмым дзесяцігоддзі існавання Савецкай улады сведчаннем негрунтоўнасці палітычных прынцыпаў і ідэй, народжаных Кастрычніцкай рэвалюцыяй? Думаецца, што не. Гэта рэвалюцыя мае неаспрэчныя заслугі перад усім светам. Яе патэнцыял не вычарпаны і ў сённяшніх умовах. Перамога Кастрычніка дазволіла адсталай раней у прамысловых адносінах краіне за кароткі тэрмін стварыць магутную індустрыю. Прычына ж многіх сённяшніх цяжкасцей заключаецца, у прыватнасці, у тым, што ў 60-я—70-я гады, калі ў наяўнасці былі ўнутраны кансенсус і спрыяльная знешнеэканамічная кан'юнктура, Савецкі Саюз не ажыццявіў глыбокай мадэрнізацыі эканомікі і сацыяльных адносін у адпаведнасці з новай тэхнічнай рэвалюцыяй, што разгарнулася ва ўсім свеце. Тым самым ён прадвызначыў сваё адставанне.

Народжаныя Кастрычнікам ідэі народнага суверэнітэту, сацыяльнай справядлівасці і роўнасці, міжнацыянальнага супрацоўніцтва, нягледзячы на ўсе злачынствы сталінскага часу, пусцілі глыбокія карані ў народнай свядомасці. Людзі прывыклі да іх, як і да сацыяльнай стабільнасці. Вось таму яны, часта самі таго не разумеючы, так хваравіта ўспрымаюць непазбежныя выдаткі пачатай мадэрнізацыі. Але з гэтага зусім не вынікае, што спадчына Кастрычніка супярэчыць задачам перабудовы. Наадварот, яна дазваляе забяспечыць пераемнасць развіцця, таму што без уліку традыцый краіны, яе ідэалаў, якія сваім зместам звернуты да чалавека, немагчыма разлічваць на поспех рэформ у канцы XX стагоддзя.

Тыя, хто гаворыць сёння аб негрунтоўнасці савецкай мадэлі развіцця, замоўчваюць і вялікі ўплыў ідэй Кастрычніка на заходнія дэмакратыі. У многім пад уздзеяннем гэтых ідэй апошнія сталі ўдзяляць значна большую ўвагу праблемам сацыяльнай абароненасці людзей, патрэбам простага чалавека. У вядомым сэнсе сучасны Захад стаў такім, які ён ёсць, не без уплыву Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі.

Натуральна, што ў канцы XX стагоддзя ніводная краіна, у тым ліку і СССР, не можа эфектыўна развівацца, знаходзячыся ў стане палітычнай і духоўнай ізаляцыі ад астатняга свету. Перабудова якраз і накіравана на тое, каб, злучыўшы дасягненні чалавечай цывілізацыі з каштоўнасцямі, народжанымі Кастрычнікам, надаць савецкай сістэме новае, сучаснае аблічча.

Вядома, выбар месца жыхарства — асабістая справа кожнага. Нельга папракаць людзей за тое, што яны вырашылі пакінуць сваю краіну, няхай нават і ў цяжкія для яе дні. Але ўсё ж хочацца спадзявацца, што поспех перабудовы падштурхне іх да перамены свайго рашэння, бо ніхто не збіраецца закрываць перад імі і дарогу назад.

**Андрэй РАБАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ ВЁСКІ

# ВЯРНУЦЬ СТАРЫЯ ДАЎГІ

**Вярнуць вёсцы старыя даўгі, як мага хутчэй наблізіць умовы жыцця земляробаў да гарадскога ўзроўню, сканцэнтраваць намаганні краіны на поўным забеспячэнні насельніцтва паўнацэнным і разнастайным харчаваннем, пераразмеркаваць дзяржаўны бюджэт на карысць аграрнага сектара... Гэтыя і іншыя патрабаванні, прасякнутыя болем за лёс нашай вёскі, прагучалі на З'ездзе народных дэпутатаў СССР.**

Праблема адраджэння вёскі, вяртання гаспадара да зямлі шматгранная і шматпланавая. Яна ўключае ў сябе розныя аспекты. Але сёння для многіх гаспадарак рэспублікі вельмі востра стаіць пытанне: дзе ж жыць маладым сем'ям калгаснікаў, прыезджым спецыялістам, даяркам, механізатарам, вясковым інтэлігентам, якія вырашылі працаваць тут. Злабадзённая гэта праблема і для Уздзенскага раёна на Міншчыне. Напрыклад, у калгасе імя Ільіча 17 чалавек стаяць у чарзе на жыллё.

— Людзей у нас не хапае. Часта прыязджаюць з іншых рэгіёнаў і просяцца на работу. Мы б рады ўзяць, ды няма куды іх пасяліць,— расказвае намеснік старшыні калгаса В. Папко.

Уздзенскі райсавет народных дэпутатаў крыху менш года назад зацвердзіў комплексную мэтавую праграму сацыяльнай перабудовы сяла на перыяд да 2000 года. Праграмай прадугледжана распрацоўка і карэкціроўка праектаў забудовы цэнтральных сядзіб калгасаў і саўгасаў, узвядзенне жылых дамоў, дашкольных устаноў, музычных школ, фельчарска-акушэрскіх пунктаў, амбулаторый, прадпрыемстваў грамадскага харчавання, дамоў быту і комплексных прыёмных пунктаў, лазняў, фізкультурна-аздараўленчых комплексаў, нават закладка і добраўпарадкаванне паркаў, садоў. Безумоўна, выкананне намечанага значна палепшыць умовы жыцця вяскоўцаў. Але гэта пакуль толькі перспектывы на будучыню. А вось на эксперыментальнай базе імя Суворава не чакалі зацвярджэння агульнай раённай праграмы, пачалі дзейнічаць самастойна. У той час, прыкладна гадоў дзесяць назад, па ўспамінах вяскоўцаў, гаспадарка была стратнай, у занядбаным стане. Дарогі дрэнныя, восенню і вясной ні праехаць, ні прайсці. І настрой у людзей быў адпаведны. Будаўніцтва амаль не вялося. Шмат моладзі пакідала родныя мясціны і перабіралася ў блізкі Мінск. Магчыма так бы яшчэ доўга працягвалася, але з'явіўся новы, энергічны кіраўнік В. Лойка. З яго прыходам і пачалося пераўтварэнне вёскі. Планамерна і ўпарта, крок за крокам. І самая істотная прыкмета таго, што вёска адчувае сябе нармальна сёння і ўпэўнена ў сваёй будучыні — гэта дзіцячы сад. Шмат дзяцей — шмат маладых сем'яў, значыць ёсць каму жыць і працаваць на гэтай зямлі не толькі сёння, але і заўтра.

Дык вось у Дзешчанцы, цэнтральнай сядзібе эксперыментальнай базы імя Суворава, ва ўтульным і чыстым дзіцячым садзіку, ужо цесна, не хапае месцаў. Таму ў бліжэйшы час тут мяркуюць побач з існуючым будынкам дзіцячага сада зрабіць прыбудову з басейнам. Няхай самыя маленькія вяскоўцы растуць ва ўмовах не горшых, а нават лепшых, чым іх гарадскія равеснікі. Мо тады многія з гэтых хлапчукоў і дзяўчынак застануцца ў родных мясцінах. І сапраўды, многае вабіць у гаспадарцы. Напрыклад, новы прыгожы і сучасны Дом культуры. Несумненна спадабаецца вясковым гаспадарам двухпавярховы цэнтр гандлю. Гэта цэлы комплекс — кулінарыя, сталовая-кафэ, магазін прамтавараў і прадуктовы. Пад фізкультурна-аздараўленчы комплекс зараз пераабсталёўваецца будынак былой канторы. Усюды ў гаспадарцы адчуваецца сялянская грунтоўнасць, разлік на доўгае і надзейнае жыццё.

Як сказаў В. Лойка, яму 60—70 працэнтаў бюджэту рабочага часу даводзіцца займацца будаўнічымі праблемамі. Вадзім Вікенцьевіч лічыць памылковым, калі кіраўнікі гаспадарак не займаюцца як след развіццём сацкультбыту. Звычайна, разважаў В. Лойка, новы старшыня адразу імкнецца дасягнуць павышэння надояў, ураджайнасці, прыбаўлення ў вазе жывёлы, а ўжо потым мяркуе ўзяцца за жыллё. І тады здараецца так, што і поспехаў у вытворчасці няма, і сацкультбыт на ранейшым узроўні, а старшыню здымаюць. Яго пераемнік зноў націскае на мяса, малако, вось і атрымліваецца зачараванае кола.

Думаецца, вопытны дырэктар мае рацыю і ў тым, што цяпер сялянам трэба стварыць умовы жыцця нават лепшыя, чым гараджанам. Дарэчы, у яго гаспадарцы так ужо робіцца. Непадалёку ад цэнтра Дзешчанкі расце прыгожы жылы пасёлак. Дамы прасторныя, утульныя, побач гараж, падведзены водаправод, газ, так што ўзровень камфорту жыцця ў пасёлку не горшы, а, улічваючы свежае паветра, і лепшы.

Але гэтыя добрыя памкненні сёння вельмі тармозіць усё нарастаючы дэфіцыт будаўнічых матэрыялаў. Асабліва не хапае цэглы. Праблема гэта сапраўды рэспубліканская. У значнай ступені яна абвастрылася яшчэ і таму, што былі ліквідаваны ў асобных буйных сельскіх гаспадарках уласныя маленькія заводы па вытворчасці цэглы. На тое меліся свае прычыны: абсталяванне гэтых заводзікаў было надзвычай прымітыўнае, устарэлае, выпуск цэглы, якасць якой пакідала жадаць лепшага, патрабаваў шмат ручной працы. І тое, што іх закрылі, відаць, правільна. Але бяда, што пры гэт[illegible] не паклапаціліся, чым і як замян[illegible]тую значную колькасць цэглы, якой пазбавіліся спажыўцы. Магчыма, меркавалася знайсці нейкія рэзервы, аднак іх не знайшлі ці не шукалі зусім. Не хапае таксама цэменту, піламатэрыялаў і г. д. Забяспечанасць індывідуальных забуд[illegible]чыкаў матэрыяламі складае [illegible] усяго 13 працэнтаў ад патрэбнага. Зразумела, што пры такім дэфіцыце шмат вяскоўцаў спачатку моцна падумаюць, перш чым узяцца ўзводзіць уласны дом. У такіх складаных умовах некаторыя гаспадаркі нават ідуць на такія варыянты: самі прадастаўляюць матэрыялы, тэхніку, а людзі ў вольны час будуюць сабе дом. Дарэчы і гэтую работу таксама ім аплачваюць. Якая ж ад гэтага ім выгада?

— А такая, што людзі, якія ўласнымі рукамі ўзвядуць дом, дзе самі для сябе па свайму густу ўсё сплануюць, размяркуюць, завядуць прысядзібную гаспадарку, укладуць у гэту справу часцінку сваёй душы, можна быць упэўненым, не паедуць адсюль нікуды, — пераканана гаворыць дырэктар В. Лойка.

Але і такія магчымасці прадастаўляюцца не ўсім. А толькі тым, хто сапраўды жадае застацца на бацькаўшчыне, ці прыезджым, якія жадаюць пусціць тут карані.

Зразумела, у цяперашніх умовах хутка задаволіць попыт на будаўнічыя матэрыялы наўрад ці ўдасца. Што ж рабіць? Магчыма, напрыклад, аднавіць вытворчасць цэглы. Таму на тэрыторыі гаспадаркі імя Катоўскага, дзе быццам бы ёсць неблагія залежы гліны, мяркуюць пабудаваць цагельны завод. Запрасілі геолагаў вывучыць запасы і якасць гліны. Ці вось яшчэ адзін варыянт: удзел сельскіх гаспадарак раёна ў рэканструкцыі аднаго з будаўнічых камбінатаў Мінска. У выніку, калі пытанне вырашыцца станоўча, гаспадаркі будуць атрымліваць сваю долю будаўнічых вырабаў. Імкнуцца тут прыцягваць на ўзаемавыгаднай аснове да развіцця сацкультбыту, эканомікі вёсак сілы буйных прамысловых прадпрыемстваў Мінска. Так, на базе саўгаса «Уздзенскі» будзе існаваць вялікая падсобная гаспадарка аб'яднання «Інтэграл». Ужо 2 мільёны рублёў з шасці запланаваных на гэтыя мэты пералічана ў раён. Адным словам, трэба быць гаспадаром і сваёй зямлі, і свайго жыцця.

**Л. ТУГАРЫН.**

## АДДАДЗЕНА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ





**Гродна. Новыя гаспадары з'явіліся ў спецпаліклініці, дзе перш атрымлівалі кансультацыі і праходзілі курс лячэння абмежаваны кантынгент кіруючых работнікаў вобласці. Па рашэнню аблвыканкома прасторны светлы будынак перададзены адной з дзіцячых гарадскіх паліклінік, якая тулілася ў цесным старым памяшканні.**

**НА ЗДЫМКАХ: цяпер гэты будынак належыць дзецям; на прыёме ва ўрача-педыятра Святланы СОБАЛЕВАЙ Коля РАМАНЮК і яго мама.**

## МІРНАЯ НАКІРАВАНАСЦЬ АБАРОННАГА КОМПЛЕКСУ

# ШТО ЗА [illegible]ЛОВАМ «КАНВЕРСІЯ»

Колькі дзіцячых веласіпедаў можна зрабіць з адной ракеты ці танка? Адказ на гэтае, яшчэ ўчора незвычайнае пытанне сёння варта шукаць на тых абаронных заводах, якія, скарачаючы выпуск ваеннай прадукцыі, выкарыстоўваюць магутнасці, што выслабаняюцца, для расшырэння вытворчасці тавараў народнага спажывання.

Канверсія. Гэты тэрмін, які параўнаўча нядаўна з'явіўся на старонках газет і часопісаў, ужо набыў папулярнасць і з'яўляецца адной з прыкмет апошняга часу. Працэс разрадкі міжнароднай напружанасці паставіў на парадак дня пытанне аб зніжэнні расходаў на абарону і аб пераводзе часткі яе эканамічнага патэнцыялу на народнагаспадарчыя патрэбы. Цяпер гэтай праблеме надаецца самая сур'ёзная ўвага: на 14,2 працэнта скарачаецца ваенны бюджэт дзяржавы, амаль на 20 — вытворчасць узбраенняў; больш за трыста абаронных заводаў і дзвесце навукова-даследчых інстытутаў «перапрафіліруюцца» на грамадзянскі сектар. На сёння мірную накіраванасць мае 40 працэнтаў прадукцыі абароннага комплексу. У 1991 годзе гэтая доля складзе 46, а яшчэ праз чатыры гады перавысіць 60 працэнтаў.

Перавод часткі ваеннай прамысловасці на агульнанародныя патрэбы дапаможа ліквідаваць цяжкасці на спажывецкім рынку. Так, томскае вытворчае аб'яднанне «Палёт» у 1990 годзе выпусціць на 100 мільёнаў рублёў аўтаматычных пральных машын. Яшчэ ў гэтым годзе павялічыцца вытворчасць бытавой радыёэлектроннай тэхнікі на прадпрыемствах абароннага сектара ў Беларускай ССР. У школы рэспублікі ўжо пастаўляецца абсталяванне для кабінетаў вылічальнай тэхнікі, а ў раёны, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, — прыборы індывідуальнага дазіметрычнага і радыеметрычнага кантролю.

Словам, канверсія ў Савецкай краіне робіць першыя, але зусім упэўненыя крокі. Дарэчы, справа не абмяжоўваецца адной толькі бытавой тэхнікай. Гэта таксама і сучасныя паветраныя лайнеры ТУ-204 і ІЛ-114, што рыхтуюцца да выпуску, і складаная медыцынская тэхніка, і робаты для ліквідацыі аварый, і многае іншае. Гэтая прадукцыя заўсёды, як правіла, самага высокага класа, адпавядае лепшым сусветным узорам. Сведчанне таму — сем залатых медалёў для тавараў, прадстаўленых у савецкай экспазіцыі «Канверсія» на восеньскім Лейпцыгскім кірмашы 1989 года.

Зрэшты, было б памылкай думаць, што канверсія абароннай прамысловасці ў стане вырашыць усе праблемы, што маюцца на сённяшні дзень у эканоміцы. Як не вырашыць іх і толькі адно скарачэнне ваеннага бюджэту — запатрабуюцца яшчэ змяненне тэхналогій і абсталявання, перападрыхтоўка рабочых і навукова-тэхнічных кадраў.

І ўсё-такі, як гаворыцца, аўчынка вартая вырабу. Тым больш, што сёння проста цяжка пераацаніць значэнне канверсіі для пошуку канструктыўных рашэнняў цэлага шэрагу міжнародных пытанняў. У прыватнасці, у галіне эканамічных сувязей. Не так даўно, напрыклад, савецкія знешнегандлёвыя арганізацыі заключылі са шведскім канцэрнам кантракт на пераплаўку на адным з яго прадпрыемстваў першых дзвюх тысяч тон металалому, знятых з узбраення савецкіх танкаў. У далейшым атрыманы метал ператворыцца ў дэталі для аўтамабіляў, іншую прадукцыю. Ацэньваючы гэты, па-сапраўднаму гістарычны акт, адзін з кіраўнікоў шведскага прадпрыемства Вернер Рыісагер сказаў: «Веру, што ўсю ваенную вытворчасць у свеце можна і неабходна перавесці на мірныя рэйкі. Ад гэтага залежыць будучыня чалавецтва». Што ж, з такімі словамі цяжка не пагадзіцца.

**Уладзімір НІКАНОРАЎ.**

## ЦІ СЛУХАЕЦЕ ВЫ РАДЫЁСТАНЦЫЮ «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ»?

# ДЛЯ ВАС, БЕЛАРУСЫ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

Шаноўныя зямлячкі і землякі!

Штодня ў эфіры на кароткіх хвалях гучаць пазыўныя — мелодыя песні беларускага кампазітара Уладзіміра Алоўнікава (верш Алеся Бачылы) «Радзіма мая дарагая» і дыктар абвяшчае: «Гаворыць Мінск — радыёстанцыя «Савецкая Беларусь». Так пачынаюцца перадачы, адрасаваныя беларусам, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны.

Зараз рэдакцыйны калектыў зведвае радасныя пачуцці, бо да нашай аўдыторыі, аўдыторыі еўрапейскіх слухачоў нацыянальнага радыё, далучылася вялікая сям'я суайчыннікаў-беларусаў, якія жывуць у Паўночнай Амерыцы. Справа ў тым, што дагэтуль перадачы вяліся толькі на Заходнюю Еўропу. І вось цяпер праграмы на беларускай мове маюць магчымасць прымаць і нашы суайчыннікі ў ЗША, Канадзе. Гэта яшчэ адзін знак тых добрых перамен, якія адбываюцца ў працэсе перабудовы, дэмакратызацыі савецкага грамадства. Гэта праяўленне ўвагі і павагі Савецкай дзяржавы да сваіх замежных суайчыннікаў, да тых, хто не парваў повязей з Радзімаю, з зямлёю сваіх продкаў.

Мяркую і спадзяюся, што амерыканскія беларусы скарыстаюць такую магчымасць, каб хоць у думках быць бліжэй да Бацькаўшчыны, штодня чуць жывое беларускае слова. Прыгадваю сведчанні народнай артысткі БССР Ліліі Давідовіч і пісьменніка Івана Чыгрынава, якія ў розны час пабывалі ў ЗША і Канадзе, пра тое, што беларусы глыбока шануюць і там роднае слова, сваю беларускую песню, нацыянальную культуру. Пра тое ж гаварыў і кандыдат філалагічных навук Леанід Казыра, які, вярнуўшыся з паездкі да беларусаў у ЗША, дзяліўся сваімі ўражаннямі, дарэчы, праз радыёстанцыю «Савецкая Беларусь».

З чаго ж складаюцца нашы праграмы? Мы расказваем пра гісторыю і сённяшні дзень Беларусі, пра ўнутраную і знешнюю палітыку Савецкай дзяржавы. І ўся гэта інфармацыя падаецца ў духу шчырасці, адкрытасці, што прыйшлі да нас з перабудоваю, дэмакратызацыяй, публічнасцю. Мы расказваем пра пазітыўнае і негатыўнае, пра добрае і дрэннае — як ёсць у жыцці.

Ну вось, скажам, цэнтральнай тэмай нашых праграм апошняга часу было нацыянальнае пытанне. Чаму? Таму што ў СССР сярод многіх іншых праблем нацыянальная выйшла ў першы рад. Адзін за адным узнікалі вострыя міжнацыянальныя канфлікты. Ёсць шэраг прычын такога становішча. З аднаго боку, у выніку ленінскай нацыянальнай палітыкі пасля сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 года ўсе народы Расіі набылі дзяржаўнасць. (Варта нагадаць, што ў царскай Расіі не было Беларусі, Украіны, Грузіі, а былі губерні Расійскай імперыі). З другога боку, у гады культу асобы Сталіна і падчас застою адбыліся шматлікія дэфармацыі ленінскай нацыянальнай палітыкі, што прывялі да перакосу ў эканамічнай, сацыяльнай, дэмаграфічнай і іншых сферах. Асабліва вострыя характар набылі праблемы развіцця моў. Шкодная тэорыя наконт фарсіраванага зліцця нацый і рэалізацыя яе на практыцы прывялі да рэзкага звужэння сферы ўжывання нацыянальных моў, а цвярозыя спробы разабрацца ў гэтым кваліфікаваліся як нацыяналізм і жорстка караліся. Не пазбегла гэтага і Беларусь. У гады сталіншчыны была вынішчана інтэлігенцыя — цвет нацыі, а беларуская мова асуджана на выміранне.

Перабудова, дэмакратызацыя, публічнасць выявілі ўсе перакосы нашага жыцця, у тым ліку і нацыянальныя. Перабудова спрыяе хуткаму росту нацыянальнай самасвядомасці і стварае магчымасці для нацыянальнага адраджэння кожнага народа, кожнай рэспублікі.

З прыняццем адпаведных законаў усе саюзныя рэспублікі і аўтаномныя нацыянальныя ўтварэнні атрымаюць сапраўдны суверэнітэт у рамках існуючай савецкай федэрацыі. Усталёўваецца права кожнага народа самастойна вырашаць усе праблемы свайго развіцця — палітычныя, экалагічныя, культурныя.

Пра ўсё гэта мы будзем інфармаваць вас, паважаныя слухачы.

У нашых перадачах вы знойдзеце інфармацыю пра тое, што ўжо зроблена ў Бел[illegible] дзеля адраджэння яе сапраўднага суверэнітэту. З новага года рэспубліка пераходзіць на гаспадарчы разлік і самафінансаванне. Ажыццяўляюцца спецыяльныя дзяржаўныя праграмы «Родная мова» і «Спадчына». У гэтым кантэксце намнога пашыраецца сфера ўжытку беларускай мовы ў сярэдніх агульнаадукацыйных школах, у інстытутах і універсітэтах, актывізуецца развіццё нацыянальнага тэатра, прафесіянальнага і самадзейнага мастацтва, інтэнсіўна вядзецца рэстаўрацыя помнікаў гісторыі і культуры, кнігавыдавецкая справа і гэтак далей. Распрацоўваюцца заканадаўчыя акты, якія будуць вынесены на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета БССР і паводле якіх беларускай мове будзе нададзены статус дзяржаўнай мовы.

Шырокае адлюстраванне ў нашых праграмах знаходзяць таксама унікальныя змены, што адбываюцца ў палітычнай сістэме савецкага грамадства.

Мы расказваем, што робіцца і дзеля рашэння жыллёвай праблемы, паляпшэння забеспячэння насельніцтва прадуктамі, удасканалення сістэмы аховы здароўя, сервісу, аздараўлення экалагічнай абстаноўкі — усіх праблем, да якіх штодзённа дачыняюцца людзі.

Выходзіць інфармацыйны выпуск «Весткі з Бацькаўшчыны», у якім — навіны грамадска-палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага жыцця. У нашых перадачах знаходзіць адлюстраванне міралюбівая знешняя палітыка Савецкай дзяржавы. А пад рубрыкай «Свабода веравызнання гарантавана Канстытуцыяй СССР» мы даём рэпартажы з цэркваў, касцёлаў, іншых культавых устаноў, інтэрв'ю з веруючымі, святарамі. Шырока практыкуюцца інтэрв'ю замежных грамадзян, якія наведваюць нашу рэспубліку ў складзе розных дэлегацый ці ў якасці турыстаў. У іх [illegible]намі іншаземцаў даецца ацэнка на[illegible] рэчаіснасці — госць гаворыць пра тое, што ён убачыў на свае вочы.

Вялікі абсяг у нашых праграмах займаюць перадачы, прысвечаныя нацыянальнай культуры беларускага народа. Гучаць фальклорныя песні і мелодыі, творы прафесіянальных кампазітараў, паэтаў, празаікаў. У г[illegible] плане нашы праграмы — своеасаблівыя агледзіны талентаў Беларусі. Вы маеце магчымасць штодня сустракацца з беларускімі самадзейнымі і прафесіянальнымі спевакамі, музыкантамі, майстрамі выяўленчага мастацтва і гэтак далей.

Па вашых просьбах, паважаныя суайчыннікі, карэспандэнты радыёстанцыі могуць выехаць у любую мясціну Беларусі, адкуль родам вы самі ці вашы маці, бацькі, бабулі, дзяды, і расказаць пра тутэйшае жыццё. Нашы карэспандэнты могуць запісаць гутарку з вашымі роднымі, блізкімі, знаёмымі, і вы пачуеце іх галасы, даведаецеся, як яны жывуць сёння.

Мы можам паводле вашых заявак-лістоў перадаваць у нашых праграмах беларускія народныя песні, мелодыі, гэтаксама і творы сучасных беларускіх кампазітараў, паэтаў, празаікаў, драматургаў.

Словам, усіх вас, паважаныя суайчыннікі, хто цікавіцца сённяшнім днём Бацькаўшчыны, ходам перабудовы, абнаўлення ўсіх сфер жыцця нашага грамадства, гісторыяй і сучасным развіццём нацыянальнай культуры, літаратуры, мовы, хто хоча паслухаць творы беларускага музычнага фальклору ці сучасных кампазітараў, запрашаем на перадачы радыёстанцыі «Савецкая Беларусь».

**У Паўночнай Амерыцы іх можна пачуць штодзённа з 2 гадзін 30 мінут да 3 гадзін ночы паводле маскоўскага часу на частотах 7400, 9765, 15180, 15455 і 17665 кілагерц, а ў Заходняй Еўропе — штодзённа з 00 гадзін 30 мінут да 1 гадзіны ночы паводле маскоўскага часу на частотах 5950, 5915, 6185 кілагерц і з 21 гадзіны 30 мінут да 22 гадзін паводле маскоўскага часу на частотах 5945, 6010, 6055, 6090, 6165, 7115, 7150 і 7420 кілагерц. Перадачы вядуцца на беларускай мове, а ў сераду, суботу і нядзелю — таксама і на нямецкай мове (на краіны Заходняй Еўропы).**

Карыстаючыся нагодаю, шлю нашым замежным суайчыннікам сардэчнае прывітанне з Бацькаўшчыны.

**Міхась ТОНДЗЕЛЬ,**
**галоўны рэдактар радыёстанцыі «Савецкая Беларусь».**

### ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

## ТРЭБА БЫЦЬ РАЗАМ

Паважаны рэдактар штотыднёвіка «Голас Радзімы»!

Шчыра вам дзякую за газеты, якія вы мне рэгулярна дасылаеце. Іх прыемна чытаць, я нават магу сказаць, што без гэтай газеты я б не толькі згубіў сувязь з родным краем, але нават мог бы і забыць родную матчыну мову. Я вельмі задаволены гэтымі газетамі і чытаю іх заўсёды ўважліва. Асабліва ў апошнія гады, пасля таго, як пад кіраўніцтвам Міхаіла Гарбачова ў вашай краіне пачалася перабудова, якая, як я ведаю, ідзе не так лёгка і сутыкаецца з сур'ёзнымі цяжкасцямі. Яно і зразумела, бо краіна вельмі вялікая і розных праблем накапілася шмат. Так што спатрэбіцца нямала часу для іх вырашэння. Міхаіл Гарбачоў клапоціцца аб Радзіме, аб яе людзях і жадае, каб усе яны былі сапраўды свабоднымі і мелі ўсё неабходнае. Канешне, перабудове робяць перашкоды тыя, хто супраць якіх-небудзь змяненняў і якім і так жывецца добра. Перашкаджаюць і розныя трагедыі, такія, як Чарнобыль, землетрасенне ў Арменіі і іншыя. Не робяць дабра і розныя забастоўкі і спробы настроіць народы краіны адзін супраць аднаго. Але мы ўсе, суайчыннікі на чужыне, вельмі спадзяёмся, што вы пераможаце гэтыя цяжкасці і ўсе разам зробіце сваю краіну перадавой ва ўсіх галінах.

Яшчэ раз вам вялікае дзякуй за газету, і жадаю вам поспехаў у вашай рабоце.

**Міхаіл КАПЫТКО.**
Новая Зеландыя.







**Ёсць дзе правесці вольны час вучням 53-й мінскай школы. Кожны дзень у шэсць гадзін вечара для іх гасцінна расчыняе дзверы кафэ «Спатканне», якое адкрыта на базе школьнай сталовай. І яго дырэктар, і бармены, і тэхнічныя распарадчыкі — самі дзеці. У кафэ можна паласавацца марожаным, сокамі, бутэрбродамі. Нярэдка дзеці самі гатуюць для сяброў і гасцей смачныя пачастункі. Сюды прыходзяць паслухаць музыку, патанцаваць, паглядзець відэафільмы.**

**НА ЗДЫМКАХ: вечарам у кафэ «Спатканне»; ну які ж вечар без гітары! Усім падабаецца, калі яе бярэ ў рукі адзінаццацікласніца Жанна ЛЮБЕЦКАЯ; Андрэй СОКАЛ, Ягор ТАРАЗЕВІЧ і Павел КАЦЭМБА — «галоўныя распарадчыкі» школьных дыскатэк.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

## *ГРАЖДАНСКАЯ ВОЙНА ИЛИ ГРАЖДАНСКИЙ МИР*

# УПУЩЕННЫЕ АЛЬТЕРНАТИВЫ РОССИИ

**II.**

Учредительное собрание открылось 5 января 1918 года в Таврическом дворце Петрограда. Было 4 часа дня. Из 715 депутатов к открытию сумели прибыть 410. Открыл собрание старейший по возрасту из присутствовавших 60-летний депутат С. Швецов, эсер, бывший народоволец («Народная воля» — революционная организация, преимущественно интеллигенции, активно действовавшая в России в 70—80 годах XIX века), известный исследователь сибирской крестьянской общины. Но его быстро сменил председатель ВЦИК (Всероссийский Центральный Исполнительный Комитет) Я. Свердлов, предложивший Учредительному собранию принять «Декларацию прав трудящегося и эксплуатируемого народа» и тем самым признать законность Советской власти. После этого большинством голосов был избран председатель Учредительного собрания. Им стал лидер эсеров В. Чернов. С этого момента вопрос о том, кому принадлежит власть в стране — Советам, большевикам или Учредительному собранию, — стал основным в бурных дебатах. В спорах столкнулась власть реальная и умозрительная. Как позже ехидно заметил Троцкий, что с хорошо вооруженной диктатурой демократия боролась бутербродами, которыми члены Учредительного собрания запаслись в достаточном количестве. Наиболее ярко это проявилось в выступлениях большевика Н. Бухарина и меньшевика И. Церетели.

Бухарин: «...мы полагаем, что вопрос о власти партии революционного пролетариата есть коренной вопрос текущей российской действительности, есть вопрос, который окончательно будет решен той самой гражданской войной, которой никакими заклинаниями никаких Черновых остановить нельзя вплоть до полной победы победоносных русских рабочих, солдат и крестьян».

Церетели: «... Здесь, в этом собрании, поднявшемся как один человек при пении Интернационала, ответственным деятелям посвящать свои речи доказательствам мысли, что социализм лучше буржуазного строя, я думаю, излишне... В настоящий момент для всего народа в Учредительном собрании мы видим единственный путь спасения революции».

Чернов, заявивший, что уже самим фактом своего открытия Учредительное собрание провозглашает конец гражданской войне между народами России, был освистан...

Ф. Раскольников, выступивший от имени большевистской фракции, заявил, что фракция покидает зал заседания Учредительного собрания, потому что его большинство, «избранное по устаревшим партийным спискам, выражает вчерашний день революции и пытается встать поперек рабочему и крестьянскому движению». Большевистская фракция, а вслед и левоэсеровская покинули зал заседания. Оставшиеся стали спешно, практически без обсуждения, принимать законопроекты о мире, земле, провозглашении России «демократической федеративной республикой»...

Около двух часов ночи к народному комиссару Павлу Дыбенко пришел начальник караула матрос Анатолий Железняков и получил указание разогнать Учредительное собрание, как только из дворца уедут члены Советского правительства. Узнав об этом, Ленин написал распоряжение о недопустимости «...никаких насилий по отношению к контрреволюционной части Учредительного собрания и, свободно выпуская всех из Таврического дворца, никого не впускать в него без особых приказов». Дыбенко вспоминал в 1923 году, как его остановил Железняков при выходе из дворца и спросил: «Что мне будет, если я не выполню приказание товарища Ленина?» «Учредилку разгоните, а завтра разберемся»,— последовал ответ.

Железняков вернулся в зал, подошел к трибуне, с которой Чернов зачитывал текст проекта закона о земле, тронул его плечо. В стенограмме заседания это отражено так:

«Гражданин матрос. Я получил инструкцию, чтобы довести до Вашего сведения, чтобы все присутствующие покинули зал заседания, потому что караул устал. (Голоса: нам не нужно караула).

Председатель. Какую инструкцию? От кого?

Гражданин матрос. Я являюсь начальником охраны Таврического дворца и имею инструкцию от комиссара Дыбенко.

Председатель. Все члены Учредительного собрания также устали, но никакая усталость не может прервать оглашения того земельного закона, которого ждет Россия. (Страшный шум. Крики: довольно! довольно!). Учредительное собрание может разойтись лишь в том случае, если будет употреблена сила... (Шум. Голоса: Долой Чернова!).

Гражданин матрос. (Не слышно)... Я прошу немедленно покинуть зал заседания».

После этого эсеровские и другие депутаты пробыли в зале не более 10-15 минут и разошлись в 4 часа 40 минут утра, объявив перерыв до 17 часов 6 января. Но днем 6 января Совнарком принял декрет о роспуске Учредительного собрания, а в ночь с 6 на 7 января его утвердил ВЦИК при двух против и пяти воздержавшихся.

«Я потерял понапрасну день, мои друзья», — писал Ленин 6 января 1918 года. — Так гласит одно старое латинское изречение. Невольно вспоминаешь его, когда думаешь о потере дня 5-го января». Эта оценка Лениным дня работы Учредительного собрания часто приводилась в различных советских изданиях. Недавно появилась и другая. Ее привел Камил Икрамов в документальной повести об отце. С его слов он рассказал о том, как в 1933 году Бухарин, возвращаясь из Ташкента в Москву с руководителем узбекских коммунистов, вспоминал: «В ночь разгона Учредительного собрания Владимир Ильич позвал меня к себе. У меня в кармане пальто была бутылка хорошего вина, и мы (следовало перечисление) долго сидели за столом. Под утро Ильич попросил повторить что-то из рассказаного о разгоне Учредилки и вдруг рассмеялся. Смеялся он долго, повторял про себя слова рассказчика и все смеялся, смеялся. Весело, заразительно, до слез хохотал. Мы не сразу поняли, что это истерика».

Очевидно, у Ленина не было однозначного и простого отношения к роспуску Учредительного собрания. Логика борьбы за власть толкала его на этот шаг, но, как опытный и умный политик, он не мог не учитывать возможных последствий этой акции.

10 января 1918 года в том же Таврическом дворце открылся III Всероссийский съезд Советов, где большевики имели большинство. Троцкий прямо заявил на нем: «Мы знаем Учредительное собрание по его делам, по его составу, по его партиям и по его вождям. Они хотели создать вторую палату, палату теней Февральской революции, и мы нисколько не скрываем и не затушевываем того, что в борьбе с этой попыткой мы нарушили формальное право. Мы не скрываем также и того факта, что мы употребили насилие, но мы сделали это в целях уничтожения всякого насилия, мы сделали это в борьбе за торжество величайших мировых идеалов».

Сегодня мы хорошо знаем, что насилием достичь «мировых идеалов» невозможно, что насилие рождает только новое насилие и страх...

Судьба большинства депутатов Учредительного собрания сложилась трагически: за исключением небольшой группы эмигрантов, они погибли либо в гражданскую войну, преследуемые обеими воюющими сторонами, либо в репрессивные сталинские 30-е годы.

Прошлого ни вернуть, ни изменить нельзя. Его можно изучать и опыт положительный или отрицательный учитывать сейчас.

Для прекращения конфронтации должно быть, по меньшей мере, желание сторон идти навстречу друг другу. Тогда этого не было. Было недоверие, враждебность, нетерпимость, противостояние, ожесточенность. Правительства широкой коалиции создано не было. Демократические резервы социалистической революции не были полностью использованы. А разгон Учредительного собрания способствовал началу гражданской войны.

Гражданская война даже ради сохранения власти — далеко не лучшая перспектива. Ее можно было избежать и предотвратить. Думаю, что в ее развязывании повинны обе стороны, социалисты России и те деятели II Интернационала, которые ничего не сделали для их примирения, а только, наоборот, разжигали страсти...

Последние полвека нам упорно внушали мысль о морально-политическом единстве советского общества. Но оказалось, что в стране живут люди разных взглядов и убеждений, хотя большинство из них озабочено судьбами своей Родины, стремлением сделать жизнь лучше. Это и есть основа нашего единения и совместных действий.

Отдельные писатели и публицисты, ищущие аналогии сегодняшним событиям в СССР в истории, делают весьма мрачные прогнозы относительно судьбы перестройки, говоря о возможности перехода в этот трудный период к диктатуре и даже к гражданской войне. Но ведь мы все это «проходили», и у нас нет иной альтернативы, как путь дальнейшего развития демократического общества. Любой другой у нас уже был, и чем это заканчивалось, известно... Монополизировать власть на определенное время можно, монополизировать право на истину нельзя. Такие попытки обычно заканчиваются трагедией.

**Алексей ЛИТВИН,**
**профессор,**
**доктор исторических наук.**

## ВОКРУГ ПРОБЛЕМЫ КОНВЕРТИРУЕМОСТИ РУБЛЯ

# МЕЖДУ ИЛЛЮЗИЕЙ И РЕАЛЬНОСТЬЮ

Полемика о конвертируемости рубля ведется в советской прессе на уровне «голых» рассуждений. Признавая необходимость этой меры для ликвидации «черных дыр» в экономике СССР, экономисты тем не менее не готовы дать конкретные рецепты.

Этот пробел в какой-то мере заполнен проектом превращения советского рубля в конвертируемую валюту, который разработала группа экспертов из США, Канады, Франции и СССР. В нем есть и понимание того, что конвертируемость может быть достигнута только в процессе кардинальной реформы всей экономической системы страны, а не сама по себе.

Авторы проекта предлагают пять стадий, которые различаются между собой кругом экономических субъектов, допускаемых к свободному обмену валюты. На первом предлагается продажа на аукционной основе твердой валюты государственным предприятиям СССР. На втором — перечень этих предприятий расширяется. На третьем — допускаются кооперативы, частные и совместные предприятия, на четвертом — частные граждане СССР, а на пятом — иностранные граждане.

Однако при всей его стройной логике это не самый подходящий, на мой взгляд, принцип. Если следовать ему, то все выглядит довольно просто: следует принять соответствующие правительственные постановления об этапах и приступить к делу. Что же мешает?

Из обширного веера препятствий главное заключается в отсутствии развитого внутреннего рынка. Сегодня в СССР «хромает» не только свободная торговля товарами народного потребления. До сих пор не может перейти в разряд реалий и оптовая торговля средствами производства, крайне заорганизовано ценообразование, низка эффективность производства.

Давайте представим, что всем хозяйственным субъектам и отдельным гражданам разрешили обменивать отечественные рубли на купюры зеленого или иного цвета. Что будет: немедленное восстановление разрушенных пропорций, ускоренный экономический рост. Повышение жизненного уровня народа? Иллюзия! Вхождение в мировое хозяйство — процесс в высшей степени противоречивый, на котором, говоря словами русского поэта Александра Блока, «стерегут нас рай и ад». Рай — это мощный импульс для использования наиболее эффективных достижений научно-технической революции, неизбежная кардинальная перестройка отраслевой структуры народного хозяйства и как следствие — повышение эффективности производства. Ад же заключается в том, что при открытости внутреннего рынка советские товаропроизводители неизбежно втягиваются в жесткую конкурентную борьбу с мощными иностранными фирмами. При условии, что первые практически не знают законов и принципов конкурентной борьбы, у них мало шансов выжить.

Другими словами, иностранные предприятия и капитал на территории СССР — это не только новая техника и технологии, но и экономический «троянский конь». Открытость экономики вполне может повлечь за собой импорт инфляции (в дополнение к внутренней), рост безработицы, усиление имущественной дифференциации общества и т. п.

Правда, ряд советских финансистов видит выход в золотом запасе страны, на который, мол, сможет опереться рубль. Но достаточно лишь мимолетного взгляда на данные конъюнктуры мирового рынка золота, чтобы убедиться в строгой ограниченности его емкости. Цены на золото и так подвержены значительным колебаниям, которые усилятся еще больше, если СССР выкинет в продажу изрядное количество желтого металла.

Так что же, отказаться от конвертируемости, отвергнуть этот и все другие проекты? Тогда надо и распрощаться с экономической реформой, с перестройкой. Обеспечение конвертируемости рубля — это архиважнейшее условие осуществляемой в стране экономической реформы, а в ряде моментов — единственно возможный инструмент решения внутренних социально-экономических проблем. Корни экономического «чуда» Японии, Западной Германии, развития Скандинавских стран находятся именно в их интеграции с мировым хозяйством. Но вместе с тем для нас сегодня ясно, что без экономической реформы ни конвертируемость рубля, ни выход на мировую арену невозможны.

Утвержденного плана перехода к конвертируемости рубля у нас пока нет. Но фактически он уже начался. Разрешен выход предприятий на внешний рынок. Часть заработанной иностранной валюты они могут самостоятельно использовать для своих целей. С 1990 года предполагается ввести 100-процентную надбавку к существующему официальному курсу рубля. Началась практика валютных аукционов. На первом этапе в них могут принимать участие лишь государственные предприятия и организации, потом — совместные предприятия, далее — иностранные фирмы. Это, кстати, согласуется с некоторыми этапами, обозначенными авторами международного проекта. С 1991 года намечен переход на новый валютный курс, более реально отражающий соотношение валют.

И, конечно, нужны новые и новые идеи, проекты, из которых можно будет выбрать лучший.

**Владимир КАМАЕВ,**
**доктор экономических наук, профессор.**

З КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЦЯ



# ЛУЖАНІН РАСКАЗВАЕ ПРА СЯБЕ

## *ДА 80-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ*

**У пачатку лістапада Максіму Лужаніну споўнілася 80 гадоў. У беларускай літаратуры ён вядомы як паэт, празаік, эсэіст, кінадраматург, крытык, дзіцячы пісьменнік, перакладчык. Першы верш Максіма Лужаніна быў надрукаваны ў 1925 годзе, чарговая кніжка выйшла сёлета. Многае з напісанага яшчэ не надрукавана.**

**Наша гаворка з Максімам Лужаніным адбылася задоўга да яго юбілею на дачы пісьменніка ў Ждановічах. Быў непагодны ліпеньскі дзень, па лісцях у садзе шамацеў дождж, дарожка была ўсыпана белым налівам...**

— Аляксандр Амвросьевіч, памятаеце, вы расказвалі пра сваё захапленне публіцыстыкай у апошні час? Многія пісьменнікі цяпер звярнуліся да гэтага жанру. Згадвалі вы і пра спецыяльны блакнот, што заўсёды пад рукой, куды занатоўваеце свае думкі і ўражанні. Што сёння хвалюе найбольш, што просіцца на паперу?

— З блакнотам — гэта ўжо работа не першага дня. Яшчэ пасля 1953 года, калі мы, дзякуй богу, засталіся «сіротамі» і калі не страшна стала пісаць тое, што думаеш, пачаў я такую работу. Сёння ж штодзень думак нараджаецца надзвычай шмат. Не адыходзіў ад тэлевізара, калі ішоў I З'езд народных дэпутатаў. Сачу за сесіяй Вярхоўнага Савета, параўноўваю, як праходзілі яны раней і цяпер. Уражвае непасрэднасць выкладання сваіх думак дэпутатамі, іх зацікаўленасць дзяржаўнымі справамі, разуменне сваёй адказнасці за ўсё. На сесіі мне запомнілася гаворка пра мову. Адна дэпутатка (хай яна мне даруе: не запісаў і забыўся яе прозвішча) вельмі адстойвала сваю мову, свае нацыянальныя здабыткі. І, мне здалося, адчувалася праз гэтыя словы вялікая любоў да зямлі, пачуццё, якое многія з нас страцілі.

— Вы былі адным з першых, хто выступаў за пашырэнне ўжывання беларускай мовы. Прысутнічалі на ўстаноўчым сходзе Таварыства беларускай мовы. Што, на вашу думку, трэба зрабіць, каб вярнуць беларусам іх родную мову?

— Што зрабіць? Пачаць вывучаць яе з першага класа.

— А калі не ўсе бацькі хочуць пасылаць сваіх дзяцей у беларускія школы?

— Я скажу, можа, нават рэзка, але па праўдзе: беларусам сваю мову вярнуць няцяжка. Я за сваё жыццё многа варожага да беларускай мовы сустракаў. Пры мне неаднойчы і гаварылі, што беларускае слова брыдкае. Але майго смаку да мовы гэтым не сапсавалі.

Самы горшы вораг у беларускай мовы — гэта мешчанін. У стары, дарэвалюцыйны час гэты мешчанін называўся чыноўнікам — 1-га, 2-га, 3-га класа. Ён канчаў гімназію, меў домік у горадзе, накшталт майго мілага Слуцка, меў агарод і г. д.

Такі самы і нават можа яшчэ больш злы мешчанін застаўся ў наш час. Ён не любіць нашу беларускую мову. Хоць ён мае лепшую кватэру за таго, дарэвалюцыйнага, прыгарадны ўчастак накшталт маёй гэтай дачы. Цяпер трэба думаць яшчэ аб адным: колькі пакаленняў мы з вамі ўжо вучым не па-беларуску? З часоў Кірыла Трафімавіча Мазурава мы вучым дзяцей не па-беларуску. Прыехала мая пляменніца з Украіны, яе бацька ваенны, дык яна ўжо не хоча вывучаць беларускую мову. «Я — ваенная!» Я кажу: «Вось вазьму зараз пасак, дык паглядзім, хто больш ваенны». Такім чынам яна вывучыла мову і на даволі прыстойнай пасадзе цяпер.

Дык вось, разумееце, найперш трэба нам пераадолець нацыянальную апатыю. Нацыянальная апатыя вельмі характэрная для беларусаў.

— А як вы лічыце, якую ролю ў аднаўленні нацыянальнай мовы на Беларусі можа адыграць Беларускі народны фронт? Ці робяцца ім для гэтага нейкія дзейсныя захады?

— Дазвольце, я вам прывяду адзін прыклад. У Горкага ішла п'еса, ставіў яе Станіслаўскі ў Мастацкім тэатры. Рэжысёра не задавальняла, што на сцэне не ствараецца ўражанне гарачага дня. Для таго, каб было такое ўражанне, трэба вывесці на сцэну каня, каб ён абмахваўся хвастом. Для гэтага сам Канстанцін Сяргеевіч выйшаў на сцэну і паказаў, як у гарачы летні дзень таленавіты конь павінен гэта рабіць. Задаволены, падышоў да Горкага і пытаецца: «Ну, как?»— «А, па-мойму, хоть слона, лишь бы не мешал». Разумееце, такія вось справы: «Абы не перашкаджаў». Я хачу гэта паўтарыць.

— Аляксандр Амвросьевіч, як вы лічыце, ці можам мы замкнуцца толькі ў сваёй нацыянальнай культуры, літаратуры? Вы ж многа і плённа перакладалі і Радзішчава, і Грыбаедава, і Гогаля, і назат Пушкіна, і Твардоўскага, і Фадзеева...

— Я лічу, што ўсё лепшае, што ёсць у суседа, павінна быць вядома і ў нас. Гэта не важна, што мы трошкі не так успрымаем адно і тое ж рускае слова ці адзін і той жа рускі выраз. Але адзенне бывае такое прывабнае і такое добрае, што ў другога такога і не знойдзеш. Мне давялося перакласці «Гора ад розуму». Я перакладаў яго каля двух гадоў, але якая была радасць, калі знойдзеш слоўца: якраз стала на месца, якраз тое, што трэба! Мне ўсё жыццё хацелася перакласці «Лістапад» Буніна. І я пераклаў яго, нарэшце, ужо ў канцы жыцця. Ну, я думаю, што такія творы павінны прышчапляць любоў... Сваю перакладчыцкую работу я не лічу менш значнай за асноўную. Яна зроблена як мае быць.

— Ганна Ахматава пераклала двух беларускіх пісьменнікаў на рускую мову — Уладзіміра Дубоўку і Максіма Лужаніна. Ці падабаецца вам яе пераклад? Як вы да гэтага ставіцеся?

— Два мае вершы яна пераклала, адзін, праўда, горшанькі, не знаю, як гэта яе спакусілі. А другі — «Смерць Пушкіна», яна пераклала вельмі добра, дзякуй ёй, заўсёды былі ёй удзячны за гэта. І калі вершы Ахматава пераклала, мяне выклікалі ў Ленінград падпісваць карэктуру. Я прыехаў, галоўны рэдактар мне гаворыць: «Знаеш, мы кніжку тваю пусцім. Толькі там трэба выкінуць вершы ў перакладзе Ахматавай і Пракоф'ева». Я кажу: «Гэтага я рабіць не буду, а вы, што хочаце, тое і рабіце».

— Калі гэта было?

— Пасля пастановы ждануўскай.

— 1946 год?

— Так, 46-ты. У жыцці ўсякага было — і вясёлага, і не вельмі. І ў маленстве маім, і ў больш сталым узросце. У вайну я быў перш пад Сталінградам, а потым, як не вельмі прыгоднага для службы, мяне перавялі ў Маскву. Давялося лавіць дэзерціраў, бандытаў, але хутка Панамарэнка загадаў збіраць з франтоў беларускія кадры. У Маскве з'явіліся Лынькоў, Крапіва, Глебка, Куляшоў...

Я жыў на казарменным палажэнні. А Крапіва, Глебка, Чорны і дзед Талаш жылі ў гасцініцы «Якар». Здаралася, я прыходзіў туды сэрца адвесці. Памятаю, слухалі мы Міхаіла Зімяніна, колькі ён нам параказваў. Ён і Мазураў тады прыехалі ад партызан. Якія былі незабыўныя расказы!

Тым часам пачало збірацца выдавецтва. Глебка быў прызначаны галоўным рэдактарам. Гурскі рэдагаваў «Партызанскую дубінку», Крапіва — «Раздавім фашысцкую гадзіну». Ну, натуральна, што і я дадаваў нешта туды.

— І самае галоўнае — вы былі зноў сярод сваіх...

— Тут ужо была адна сям'я. Часта званілі: «Максім, што ты там робіш?» — «Нічога не раблю». — «Дык можа б ты чаравікі абуў?» — «А што?» — «Ды ты ідзі проста да нас...»

Сустракаліся, многае ўспаміналася, многае пераацэньвалася. У тым добрым святле, у якім мы пачалі пераацэньваць людзей, якіх ганьбілі і зневажалі і не выпускалі яшчэ на свет божы. Вось мы ўспаміналі іх, бо ведалі, што за імі нічога няма. Так яно потым і здарылася.

Яшчэ да вайны я зведаў уплыў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, трошкі маладзейшых — Бядулі, Чорнага, Міхася Зарыцкага. З гэтага боку навучанне было вельмі цікавае, таму што мы іх любілі, заўсёды шанавалі, і яны аддавалі нам увагу: то жонка Купалы зазаве ў хату, пачастуе чаем, Купала нешта скажа, то з Бядулем пагаворыш. А потым, калі мы арганізавалі літаратурнае аб'яднанне «Узвышша», дзе былі Чорны, Крапіва, Дубоўка, Пушча, Глебка, я, Шашалевіч, то паставілі трошкі інакшыя задачы: у «Маладняку» мы трымаліся па-маладому, дазвалялі можа лішняе і сказаць, і выдумаць нешта, а тут была работа, сур'ёзная работа. І да таго часу мы ўсе, бадай, былі ва універсітэце. Нельга сказаць, што нас віталі. Хутчэй — абсмейвалі. Нават такія вершыкі з'яўляліся:

**Что за штука на педфаке!**
**Как поймешь ты это!**
**Бросишь палкою в собаку —**
**Попадешь в поэта.**

Прыводзіла гэта часам да нездаровых з'яў. Тым не менш большасць з нас давучыліся. Многім з нас не далі давучыцца, давялося перамяніць месцажыхарства і мне.

— Вы не скончылі універсітэт?..

— Я не скончыў. Я перамяніў месцажыхарства на Новасібірск.

— Не па ўласным жаданні?

— Не, па пэўных артыкулах крымінальнага кодэксу.

— З усіх вашых настаўнікаў, якіх вы называлі, асобыя адносіны ў вас да Янкі Купалы...

— Ведаеце, тут кожнаму сваё. Янка Купала вершам «А хто там ідзе?» даў мне першую кніжку, Якуб Колас даў «Сымона-музыку» і потым неўзабаве «Новую зямлю». Разумееце, іх нельга параўнаць. Яны настолькі ўзбагацілі мяне, далі магчымасць пазнаць сябе і людзей, якія вакол цябе, што мы, хто ў іх вучыўся, былі шчаслівыя. Тым больш, што я ў Коласа і вучыўся, і працаваў.

— Як складваліся вашы ўзаемаадносіны ці, можа правільней, дружба з Якубам Коласам? Як з'явілася ваша кніжка «Колас расказвае пра сябе»?

— Яна ўвогуле і сёння яшчэ напаўняецца. З Коласам мне пашанцавала першы раз паехаць у Маскву, і ён спытаў: «А дзе ты будзеш начаваць?»

— Калі гэта было?

— Гэта было ў год, калі забілі Міхоэлса ў нас, у 1948-м. Дык вось, Колас мяне забраў у свой вагон, потым я яго правёў да гасцініцы, развіталіся, і раптам ён кажа: «А, знаеш, неяк не загаруем». Пайшоў да адміністратара, нешта перагаварыў, і нам далі два пакоі... І мы з ім там жылі. Гэта была першая сустрэча з Якубам Коласам. У нас была гаворка і пра страту Купалы, вельмі сумная гаворка. Ніколі ён не мог забыць Купалу, і нават, мне здавалася, у яго заўсёды была сляза, калі ўспамінаў Купалу.

Ну а затым я стаў проста сваім чалавекам у доме Коласа. Я знаў усю хату, знаў, дзе яго кніжкі ляжаць. А пачалося ўсё, як я казаў, з паездкі ў Маскву.

Я ехаў у сталіцу, каб пайсці ў Мастацкі тэатр, Траццякоўскую галерэю, у Пушкінскі музей. Ну, Якубу гэта не дужа падабалася, бо ён хадзіў толькі ў Камітэт па Сталінскіх прэміях. Але тым не менш яго цікавіла — чым жа я жыву? Я для яго быў новым чалавекам. Не тым «Сцёпкам і Алёнкай», пра якіх ён пісаў, а чалавекам больш-менш інтэлігентным. Вучыўся ж пісаць я з яго, так, як і з Купалы.

— А ў чым заключалася ваша праца ў Коласа?

— У Коласа! Вы знаеце, я кніжак восем Коласавых рэдагаваў. Разумееце, ён трошкі спяшаўся. Аддаваў на рэдагаванне «У палескай глушы» і гаварыў: «Ты паглядзі, там у адным месцы, здаецца, Лабановіч Іван Пятровіч, а ён не гэтак павінен звацца». Яшчэ я яму многа расшукаў кніжак для працы.

Потым, я вам скажу, не перабольшваючы: Коласаў дом стаў маім другім домам. Бацькі ў мяне не было з 1946 года. Маці трошкі пазней памерла. Колас мне замяніў бацьку. Быў вельмі ўважлівы, клапаціўся пра мяне.

— Аляксандр Амвросьевіч, а ці часта вам даводзіцца бываць у роднай вёсцы? Якая яна цяпер?

— Мае Прусы сталі сёння нечым сярэднім паміж тымі мясцінамі, дзе знаходзіцца Салігорск, і ўжо меншымі вёсачкамі, што ідуць на балоты. Так што ўвесь час вёска меншае. І мне сказалі, баюся памыліцца, што толькі чалавек 20—28 у гэтым годзе будзе навучацца.

— А новую школу пабудавалі?

— Новую школу пабудавалі, і ў добрым месцы. Я ім там, колькі мог, завёз кніжак. І кожны раз, калі едзеш, то вязеш. Вёска была вялікая. І адзінае, што ў ёй засталося нязменным, — вялікая лужына пасярэдзіне. Так, там і качкі плаваюць, і свінні там чухаюцца. А кругом дамы невялічкія, і, на жаль, большасць дамоў па Случчыне, і ў нас у вёсцы прынамсі, сумесь цэглы і саломы. А драўляных засталося мала. Таму што стаяла вёска не ў лесе.

— А чаму цяпер людзей менш?

— Разумееце, Салігорск стаў вялізным горадам, больш за 60 тысяч чалавек у ім жыве. І ўсё тое, што больш вартае, і больш здольнае, і больш спрытнае, з'ехала ў Салігорск. Вось я быў на выпускной вечарыне ў Чапялёўскай школе. У 1977 годзе было 66 вучняў-выпускнікоў. Гэта было прыемна, таму што частка з іх звязала сваё жыццё з гэтымі мясцінамі.

А так, натуральна, выязджаюць маладыя, а старыя застаюцца веку дажываць. Сваіх равеснікаў насілу некалькі знайшоў.

— Вы казалі, што справа не толькі ў тым, што проста з'ехалі на працу некуды, а таму, што яшчэ і ўмовы жыцця пагоршалі...

— Абсалютна правільна. Я лічу, што ў сэнсе экалогіі Случчыне не пашанцавала. Горш чым каму. Ад пароды, якую выкідаюць з салігорскіх шахтаў, адбываецца засаленне глебы.

— Салігорск — гэта толькі адна з тых балючых экалагічных праблем, якія...

—...якія ў Беларусі ёсць. Вы разумееце, едзеш па Салігоршчыне і бачыш вялікія сажалкі, гэта правалілася глеба. А тут стаяць капры вялікія...

Цяпер другое. Жыў я адзін час каля Мінскага мора, хацінка была. Там было столькі ластавак, што нельга было выйсці, яны крылом проста чаплялі. У 1963-м годзе мы пераехалі сюды. Ластавак паменшала. А пасля гэтай хімізацыі я бачыў за лета можа дзве ці тры ластаўкі. Пасля Чарнобыля яны зусім зніклі...

Цяпер наогул птушка амаль сціхла ў лесе. Я па пяць гадзін корпаюся ў садзе, а не чую птушак. Толькі дзяруцца сарокі трохі. Ну, і дзякуй ім, дразды паелі вішні. Гэтым яны не грэбуюць, і ім не шкодзіць.

Так што з экалогіяй у нас справы сур'ёзныя. Трэба абавязкова як мага болей прымаць самых дзейсных захадаў для таго, каб зямлю нашу неяк паправіць, каб паменшыць нітратаў у ёй... Мне здаецца, тут яшчэ вялікая-вялікая справа.

— Дзякуй, Аляксандр Амвросьевіч, за цікавую гутарку, таму што так многа чаго мы закранулі. Здароўя вам і плёну ў працы.

— І вам дзякуй за пажаданне. Калі будуць сілы, можа, што і зробім яшчэ.

**Гутарку вяла**
**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

---

Максім ЛУЖАНІН

**Калі паглыне мяне шлях**
**нядблізкі**
**У край курганаў і абеліскаў,**
**Адбіць навалу над родным**
**домам**
**Вярнуся громам.**

**А звянуць травы, асмягнуць**
**вусны, —**
**Дажджом вярнуся.**

**Калі ж нашчадкам не будзе**
**трэба**
**Ні збройны выбух, ні бохан**
**хлеба,**
**У час іх зорны, час запаветны**
**Вярнуся ветрам.**

**Калі дзе знойдзем, слязу**
**асушым,**
**Калі прыгаслі, раздзьмуем**
**душы.**

**Нідзе не дзенуся з Беларусі,**
**Кім пажадае, тым і вярнуся, —**

**Жыло, жыве і жыць застанецца**
**Тут маё сэрца.**

## *МУЗЫЧНАЯ ВОСЕНЬ*

**Усесаюзны фестываль «Беларуская музычная восень» зноў запрасіў у канцэртныя залы паклоннікаў розных музычных напрамкаў. У гэтым буйнейшым у краіне свяце мастацтва прынялі ўдзел многія вядомыя калектывы. Вялікую цікавасць у публікі выклікалі выступленні Каўнаскага дзяржаўнага хору. «Джаз-харал» з Грузіі прывёз творы джазавай класікі і сучасныя апрацоўкі грузінскага фальклору. У дні фестывалю прагучалі творы Д. Шастаковіча, якія выконваліся ў рамках аб'яўленага ЮНЕСКА года Шастаковіча. Выступілі славуты Дзяржаўны камерны аркестр пад кіраўніцтвам Віктара Траццякова, Дзяржаўны акадэмічны аркестр імя Осіпава, які адзначае сёлета сваё сямідзесяцігоддзе, Дзяржаўны аркестр народных інструментаў УССР — самабытны інтэпрэтатар народнай музыкі Украіны. Побач з імянітымі ў фестывалі прымалі ўдзел і маладыя калектывы. Гэта «Вівальдзі-аркестр», у складзе якога адны толькі дзяўчаты, камерны аркестр «Калегіум-музікум», які выконвае творы першай венскай школы позніх аўтараў.**

**Для кампазітараў і выканаўцаў нашай рэспублікі «Беларуская музычная восень» з'явілася творчай справаздачай перад слухачамі не толькі беларускай сталіцы, але і Віцебска, Полацка, іншых гарадоў і вёсак рэспублікі.**

**Усяго адбылося каля 500 фестывальных канцэртаў.**

**НА ЗДЫМКУ: урачыстае адкрыццё фестывалю.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**



КНІЖКА З ДАЛЁКАГА УСХОДУ

# *РУБАІ ВЫДАДЗЕНЫ ЎПЕРШЫНЮ*

**Я тайну, выпешчаную ў салодкай скрусе,**
**Табе паведамляю ў святым прымусе:**
**З мілосцю да цябе сыду ў зямлю,**
**З мілосцю да цябе з зямлі ўздымуся.**

Гэтыя радкі належаць класіку ірана-таджыкскай літаратуры, паэту, матэматыку, фізіку і філосафу Амару Хаяму. Трэба прызнацца, што масавы чытач сённяшняй Беларусі не знаёмы з гэтым паэтам Усходу, чые чатырохрадкоўі (рубаі) цэлыя стагоддзі захапляюць і будуць захапляць чалавека глыбінёю думкі і пачуцця, палётам духу і фантазіі.

Першай візітнай карткай у гэтым сэнсе з'яўляецца выданне ўпершыню на беларускай мове кнігі Амара Хаяма «Рубаі» (Мн., 1989, «Мастацкая літаратура»). Пераклад з фарсі-кабулі зрабіў Рыгор Барадулін, а склаў зборнік Валерый Чамбарысаў.

Вучоныя-даследчыкі творчасці Амара Хаяма вызначылі, што паэту бясспрэчна належыць больш чым 400 чатырохрадкоўяў. Амаль палова іх увайшла ў названую кнігу.

Майстар адшліфаванага верша Амар Хаям уклаў у чатыры радкі рубаі цэлую гаму чалавечых страсцей і думак, у іх глыбокія разважанні аб сэнсе жыцця.

**Хто быў стары і хто быў малады,**
**Усіх з сабою забяруць гады.**
**Зямное царства — ў ім ніхто не вечны,**
**Мы выйдзем, прыйдуць іншыя сюды.**

. . . . . . . . .

**Пакуль наш лёс на клопат малады,**
**Віна сягоння вып'ем без бяды,**
**Бо неба гэтае ў сваім вярчэнні**
**Не дасць нам потым і глытка вады.**

З вершаў, якія ўвайшлі ў зборнік, каштоўныя многія, што прасякнуты геданічнымі матывамі, пафасам волі асобы, антыклерыкальным вальнадумствам. Немалое месца ў вершах Хаяма займае культ віна і гулякі, дзе праяўляецца бунт паэта супраць рэлігійных забарон іслама.

**Мне раяць: «Меней пі, бо ты — мужчына!**
**Прычына ў чым, што п'еш віно няспынна!»**
**«Прычына — любы твар і раніцы віно.**
**Разваж, ці ёсць больш важная прычына!»**

Шматграннасць жыцця ў паэзіі Амара Хаяма — гэта цэлы свет чалавечых перажыванняў [illegible] пачуццяў, пратэст супраць несправядлівасці свету. Яны пераплятаюцца ў вострым гумары, метафарамі, параўнаннямі. Шэраг чатырохрадкоўяў сугучны з сённяшнім днём. Напрыклад, гэтае:

**Не надтачыць, не ўкараціць ні лёс, ні дні,**
**Не варта ныць па драбязе, па мітусні.**
**Бо [illegible] вы нашыя і ўласнымі рукамі**
**Пер[illegible]ліць, як воск, ты нават і не сні.**

Зазначым, што кніжка «Рубаі» выйшла ў вельмі добрым паліграфічным выкананні, добра ілюстравана мастаком М. Казловым. А тыраж яе 9 600 экземпляраў, на жаль, не дасць магчымасці, каб выданне трапіла ў кожную масавую бібліятэку рэспублікі, аматарам паэзіі.

Зазначым яшчэ і тое, што выдаўцам і складальніку трэба было суправадзіць гэтае першае ў Беларусі выданне ўступным артыкулам аб жыцці і творчасці Амара Хаяма.

**Мікалай РОЗУМ.**

## *НА МОВАХ СВЕТУ*

### ВЕНГРЫЯ

Маці, бацька і асабліва бабуля вельмі хацелі, каб Сева стаў славутым, стаў вялікім чалавекам, каб яго паказвалі па тэлевізары. Каб ажыццявіць свой план, яны прыставілі да Севы мноства настаўнікаў. Так ён стаў вундэркіндам. І пачалося ў трэцякласніка Севы жыццё, калі ён і свету белага не бачыў. Севу паказалі адзін раз па тэлевізары, ён стаў славутым чалавекам. Але, мусіць, Сева стаў сап[illegible]дным, а, значыць, і вялікі[illegible]лавекам у тую хвіліну, [illegible]лі ён адчуў, што чужы боль стаў ягоным, чужая бяда — яго ўласнай. У Севы нібыта і не аказалася ніякіх асаблівых талентаў, але ў цяжкай сітуацыі выявіўся ў [illegible]чыка адзін безумоўны т[illegible]нт — талент чалавечай спагады і дабраты.

Такі кароткі змест аповесці для дзяцей «Як я быў вундэркіндам» Уладзіміра Машкова. Аповесць выпушчана будапешцкім выдавецтвам «Мора» ў перакладзе на венгерскую мову Івана Фёльдэака.

### ГДР

У 1983 годзе ў берлінскім выдавецтве «Уніён» выйшла асобным выданнем аповесць Анатоля Кудраўца «Раданіца». Твор выклікаў у ГДР вялікую колькасць водгукаў рэцэнзій. З'явілася таксама публікацыя ў канадскім часопісе «Германаславіка». Рэцэнзенты звярталі ўвагу на сацыяльны, філасофскі, абрадава-побытавы, нацыянальны кантэкст аповесці. Усе сыходзіліся на адным: твор прыйшоўся вельмі даспадобы нямецкаму чытачу. Выказваліся спадзяванні на наступную сустрэчу.

І вось у мінулым годзе выдавецтва «Ауфбау» выпусціла зборнік прозы пісьменніка «Зменлівы след». У кнігу ўвайшлі апавяданні «Іванка», «На балоце скрыпелі драчы», «Цітаўкі», «Елачка», перакладчыкам названыя адпаведна «Зменлівы след», «Па дарозе дамоў», «Другі варыянт», «Жулік», «Дзень перад святам».

### ПОЛЬШЧА

«Янка Брыль — сардэчны сябар Польшчы і палякаў...» — такімі цёплымі словамі пачынаецца анатацыя да кнігі беларускага празаіка «Быстры Нёман і іншыя апавяданні», выпушчаныя сёлета ў Варшаве. Далей даюцца біяграфічныя звесткі пра пісьменніка, а затым коратка характарызуецца яго творчасць: «Пісьменнік аддае перавагу невялікім літаратурным формам — навеле, эсэ, амаль ці не ўсе яго творы звязаны з вясковым жыццём Беларусі, яе народа, з прыродай краю. Ён сапраўды заслугоўвае звання прыжыццёвага класіка беларускай літаратуры. Яго творчасць параўноўваюць з творчасцю Паустоўскага і Сараяна.

Зборнік «Быстры Нёман...», гаворыцца ў анатацыі, уключае найбольш характэрныя і ў той самы час выдатнейшыя навелы Брыля. Тонкі стыліст, ён адлюстроўвае ў іх вясковае жыццё свайго дзяцінства, піша партрэты суайчыннікаў-землякоў. Кніга іскрыцца ядраным народным гумарам. Яна прасякнута любоўю да роднага краю, прыроды, з якой героі жывуць у непарыўным адзінстве — гэта і беларускія сяляне, і сакавітыя польскія тыпажы з даваенных «крэсаў».

На польскую мову кнігу пераклаў Чэслаў Сенюх. Выйшла яна ў серыі «Сучасная сусветная проза». У гэтай серыі сёлета выйшлі таксама творы Віктара Астаф'ева, Італа Кальвіна, Міраслава Крлежы, Сусаны Сонтаг і іншых.

**А. ГАРДЗІЦКІ.**




# ЛАЎРЭАТ ЕЎРАПЕЙСКАГА КОНКУРСУ

Ён аказаўся самым малодшым сярод удзельнікаў гэтага спаборніцтва музыкантаў і выйшаў у лідэры.

У канцы жніўня вучню 7-га класа сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі лаўрэату Усесаюзнага конкурсу Мікаэлу Самсонаву паведамілі, што ён паедзе ў Балгарыю на Еўрапейскі конкурс віяланчэлістаў. Гэты конкурс маладых талентаў праводзіць Еўрапейская музычная асацыяцыя штогод у розных краінах. Сёлета ўдзельнічалі ў ім музыканты з 15 краін, у тым ліку двое з СССР, і сярод іх мінскі школьнік.

Як расказаў педагог М. Самсонава Уладзімір Перлін, конкурсная праграма была вельмі складаная. Апроч класікі, патрабавалася выканаць і твор балгарскага аўтара. Мікаэл атрымаў праграму за два тыдні да ад'езду, што вымагала вельмі напружанай працы: ён займаўся па сем гадзін на дзень.

І вось — Правадыя, утульны балгарскі гарадок сярод гор, дзе праходзіў конкурс, увесь па-святочнаму аздоблены. Ён жыў гэтым віяланчэльным форумам. У школах былі спынены заняткі. З 9 раніцы да 7 гадзін вечара конкурсная зала была перапоўнена.

Са сцэны гучала самая розная музыка: Н. Паганіні, А. Дворжак, П. Уладзігераў, С. Пракоф'еў... Узровень выканання быў вельмі высокі. І ўсё ж на апошні тур прайшлі толькі шасцёра, у іх ліку і М. Самсонаў, якому журы прысудзіла трэцюю прэмію.

**Г. САСНОЎСКІ.**

# ПРЫСВЕЧАНЫ ПУШКІНУ

Калісьці пра беларусаў А. Пушкін сказаў наступнае: «Народ издревле нам родной». У Віцебску паэт быў праездам двойчы — 10 мая 1820 года і 7 жніўня 1824 года. Гэтыя даты і значацца на мемарыяльным памятным знаку, які нядаўна адкрыты ў маляўнічым кутку Віцебска, дзе зліваецца Віцьба з Дзвіной. Тут і вуліца, і мост носяць яго імя.

Паэт Давід Сімановіч расказаў аб тым, якое дачыненне з віцебскім краем маюць такія творы генія, як «Дуброўскі», «Гісторыя Пятра І», «Палтава», адзначыў, што віцябчане зберагаюць усё, звязанае з гісторыяй свайго горада, дарэчы згадаўшы крылаты пушкінскі выраз: «Павага да мінулага — вось рыса, якая адрознівае адукаванасць ад дзікунства...»

Усхваляванае слова пра вялікага паэта на ўрачыстасці, прысвечанай адкрыццю знака, сказалі першы намеснік старшыні гарвыканкома В. Лапінскі, адзін з аўтараў памятнага знака, архітэктар, старшыня гарадскога савета творчай інтэлігенцыі В. Ягадніцкі, дацэнт Віцебскага педагагічнага інстытута А. Канапелька, паэт У. Папковіч, народны артыст СССР Ф. Шмакаў.

Тут жа адбыўся невялікі канцэрт.

У Віцебску з'явіўся ўтульны і прыгожы пушкінскі куток. А наперадзе адкрыццё іншых памятных знакаў, і ў першую чаргу — мемарыяльнай дошкі на вуліцы, якая носіць імя незабыўнага У. Караткевіча.

## спорт

САМБА. Усе сем савецкіх спартсменак, якія прынялі ўдзел у першынстве свету, вярнуліся з ЗША чэмпіёнкамі. Сярод іх і беларуская самбістка Галіна Савенкава.

ФУТБОЛ. Завяршыліся адборачныя гульні першынства свету ў 3-й еўрапейскай групе. Толькі ў апошнім туры вызначыліся фіналісты, якія будуць удзельнічаць у барацьбе за медалі летам наступнага года. Пуцёўкі ў Італію заваявалі футбалісты СССР і Аўстрыі. Свой заключны матч зборная нашай краіны выйграла ў каманды Турцыі з лікам 2:0. У гэтай гульні вызначыўся ў абароне савецкай зборнай мінчанін Андрэй Зыгмантовіч.

Каманда мінскага «Дынама» паспяхова правяла гульні на Кубак Савецкага Саюза. Яна змагла перамагчы чэмпіёна краіны сёлетняга года маскоўскі «Спартак» (1:2 і 1:0) і выйшла ў чвэрцьфінал.

ТЭНІС. Добрых поспехаў дамагаецца мінчанка Наталля Зверава ў пары з Ларысай Саўчанка на многіх міжнародных спаборніцтвах.

Вось і нядаўна савецкія тэнісісткі занялі другое месца на чарговым этапе фінальнага турніру серыі «Вірджынія Слімз» у нью-йоркскай зале «Мэдзісан Сквер Гардэн».

**«Публічнасць рускіх урываецца ў марскія прасторы», — так пракаменціравала газета «Уэльс он сандзі» з'яўленне крэйсерскай яхты «Саманта» ля берагоў Паўднёвага Уэльса. Гэта першае савецкае спартыўнае судна, якое наведала гарадок Кардыф. Па традыцыі ў альбом старэйшага ў Вялікабрытаніі Пенарцкага яхт-клуба [яму амаль сто гадоў], па запрашэнню якога прычаліла «Саманта» да берагоў туманнага Альбіёна, уклейваецца «судовая роля» гасцей, гэта значыць імёны прыбыўшых. Спіс савецкага экіпажа невялікі: навуковыя супрацоўнікі Уладзімір Трафімаў, Юрый Чывень, Валянцін Аўчарэнка, наладчык радыёапаратуры Уладзімір Кузняцоў і будаўнік Іван Навbooryч. Усе — мінчане, члены клуба «Мерыдыян».**

**Больш за тры гады назад гэты клуб сабраў аматараў паруснага спорту. У сухапутным Мінску іх аказалася амаль трыццаць чалавек. Яны аднаўляюць і рэканструююць старыя судны, будуюць новыя, удасканальваюць на Мінскім моры, на азёрах рэспублікі сваё спартыўнае майстэрства. Беларускія яхтсмены заявілі аб сабе ў парусной рэгаце на Дняпры, выстаўлялі каманду ў чэмпіянаце СССР, які праходзіў на Анежскім возеры, летась прынялі ўдзел у парусной рэгаце ў Балгарыі на кубак Георгія Георгіева — мужнага спартсмена, які ў адзіночку прайшоў пад ветразямі вакол зямнога шара.**

**Паход «Саманты» ў Паўднёвы Уэльс арганізаваны Беларускім аддзяленнем Савецкага фонду міру і Дзяржкамспортам БССР. Гэта плаванне стала яшчэ адной праверкай спартыўнага майстэрства членаў клуба «Мерыдыян». Ззаду 1 800 міль. Прайшоўшы Балтыйскае і Паўночнае моры, пераадолеўшы штормы Атлантычнага акіяна, беларускія яхтсмены дасягнулі пункта прызначэння. На борце «Саманта» несла вымпел ААН «Мінск — пасланец міру».**

**НА ЗДЫМКУ: яхта «Саманта».**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**



## ФЕСТЫВАЛЬ ФАТАГРАФІЧНАГА МАСТАЦТВА





**Фестываль фатаграфічнага мастацтва, прысвечаны 150-годдзю фатаграфіі, адбыўся ў Мінску. Яго арганізатарамі сталі народны клуб «Мінск» і міжсаюзны Дом самадзейнай творчасці Мінскага аблсаўпрофа. Удзельнікі свята змаглі пазнаёміцца з творчасцю такіх майстроў, як Максім Дзмітрыеў, Маісей Напельбаум, Аляксандр Родчанка. Міжклубная выстаўка «Фатаграфіка-89» прадставіла работы лепшых сучасных фотамастакоў. З этапамі развіцця фатаграфіі ў Беларусі, з творчасцю майстроў светапісу XIX—XX стагоддзяў удзельнікі фестывалю знаёміліся на выстаўцы «Фота са старога альбома».**

**У заключэнне свята адбыўся аўкцыён, на якім аматары фатаграфіі змаглі набыць работы майстроў Беларусі, Літвы, Ленінграда.**

**НА ЗДЫМКАХ: на выстаўцы «Фатаграфіка-89»; работа фатографа Міхаіла ЗУБЕЯ з Давыд-Гарадка [пачатак XX стагоддзя] з выстаўкі «Фота са старога альбома».**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Шукаюцца сваякі **ПАЎЛОВІЧА Казіміра Казіміравіча,** які выехаў у ЗША прыкладна ў 1915—1920 гадах з вёскі Баяры Барысаўскага раёна Мінскай вобласці. Вядома, што ён жыў з сям'ёй у Дэтройце. Казімір Паўловіч меў дзяцей: сыноў Гераніма і Казіміра, дачку Розу-Марыю.

Просьба да тых, каму што-небудзь вядома пра лёс названых асоб або іх сваякоў у ЗША, паведаміць пра гэта ў рэдакцыю або пляменніцы Казіміра Паўловіча па адрасу:

**220004, БССР, Мінск, вул. Амуратарская, дом. 2, кв. 19. ПАЎЛОВІЧ Алене Іванаўне.**

Шукаецца сям'я **ІВАНІШКІ Рыгора Уладзіміравіча.** Ён нарадзіўся ў 1889 ці 1890 годзе ў сяле Верашчакі былога Навазыбкаўскага павета Чарнігаўскай губерні. Выехаў у ЗША прыкладна ў 1912—1914 гадах з сяла Верашчакі. Да другой сусветнай вайны жыў у штаце Ілінойс, недалёка ад Чыкага, займаўся сельскай гаспадаркай. Мяркуючы па фотаздымку (не захаваўся), у яго былі жонка і двое дзяцей.

Сваякоў шукаюць сын і ўнук Іванішкі Аляксандра Уладзіміравіча — малодшага брата Іванішкі Рыгора Уладзіміравіча.

Просім усіх, каму што-небудзь вядома пра сям'ю Р. Іванішкі, паведаміць у рэдакцыю або па адрасу:

**220013, БССР, г. Мінск, вул. Цнянская, дом 2, корпус 1, кв. 64. ІВАНІШКУ Аляксандру Іванавічу.**

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### БУРАКІ ФАРШЫРАВАНЫЯ

**Буракі зварыць з дабаўленнем 3-працэнтнага воцату, выразаць сярэдзіну. Мяса ялавічыны пракруціць на мясарубцы, дабавіць у яго соль, перац, падсмажаную цыбулю і запоўніць фаршам буракі.**

**Прыгатаваць чырвоны соус, заліць фаршыраваныя буракі і запячы іх у духоўцы.**

**4 буракі, 300 грамаў ялавічыны, 1 цыбуліна, 2 сталовыя лыжкі масла, 1 шклянка чырвонага соусу, 2 сталовыя лыжкі 3-працэнтнага воцату, перац, соль.**

### ЧЫРВОНЫ СОУС

**Муку крыху падсмажыць да крэмавага колеру і развесці гарачым мясным булёнам. Карэнні, цыбулю і тамат-пюрэ падсмажыць, перакласці ў булён і паварыць на слабым агні 20-30 мінут. У канцы дабавіць соль, крыху віна [мадэры ці партвейну], працадзіць і давесці да кіпення.**

**2 сталовыя лыжкі мукі, 1 морква, 1 корань пятрушкі, 1 цыбуліна, 0,5 шклянкі тамату-пюрэ, 3 сталовыя лыжкі тлушчу, 3 шклянкі мяснога булёну, 1-2 сталовыя лыжкі віна, соль.**

### ПЕЛЬМЕНІ БУЛЬБЯНЫЯ СА СМЯТАНАЙ

**У надзёртую сырую бульбу дабавіць муку, яйка, соль і перамяшаць. Мяса пракруціць на мясарубцы, дабавіць сырое яйка, падсмажаную цыбулю, соль і перамяшаць. Бульбяную масу падзяліць на невялікія аладкі, на сярэдзіну пакласці фарш і злучыць краі. Пельмені адварыць у падсоленай вадзе і падаць са смятанай.**

**12 бульбін, 2 сталовыя лыжкі мукі, 3-4 сталовыя лыжкі смятаны, 2 яйкі, 1 цыбуліна, соль.**

**Для фаршу: 350 грамаў ялавічыны, 1 цыбуліна, 1 сталовая лыжка масла, соль.**



## УЗОРЫ «ПАЎЛІНКІ»

З паддашкаў і камор дасталі бабуліны калаўроты, кросны і перадалі ў Сычоўскі сельскі клуб мясцовыя жыхары. І не дзеля таго, каб увесь гэты «антыкварыят» стаў музейнымі экспанатамі — старадаўнія прылады сталі дзеючымі інструментамі рукадзельніц створанага тут аматарскага аб'яднання мясцовых дзяўчат «Паўлінка».

Выкладчыкі школы, маладыя жывёлаводы і паляводы, старшакласніцы цяпер збіраюцца ў клубе, вучацца майстэрству вышывання і ткацтва, адраджаюць старадаўнія ўзоры сваіх бабуль.

**І. КУКСА.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44,**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80,**
**33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

Індэкс 63854. Зак. 1371